# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

17 красавіка 2020 года №16 (1303) 18+









# Як змянілася колькасць насельніцтва ў рэгіёне за 10 год




«РГ» параўнала дадзеныя Белстата па колькасці насельніцтва ў гарадах і раёнах рэгіёна па двух апошніх перапісах

старонка 2

Інфаграфіка Ігара ПАЛЫНСКАГА.

З-за пандэміі прэзентацыю забудовы мікрараёна «Паўночны-5» у Вілейцы правялі анлайн

старонка 3

Ісландскі дызайнер зрабіў лагатып для ФК «Астравец»

старонка 22

На пахаваннях польскіх паліцэйскіх міжваеннага часу нядаўна з'явілася новая магіла. Як так атрымалася?

старонка 21


ISSN 1991–7155




Адсканyйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# «Першы тыдзень з дзяўчатамі плакалі». Маналогі студэнта і навучэнцаў-медыкаў з рэгіёна пра вучобу

**Паразмаўлялі з медыкамі з нашага рэгіёна, каб даведацца, чаму людзі абіраюць адну з самых складаных прафесій сучаснасці, што іх цікавіць акрамя медыцыны і што яны думаць пра каранавірус.**

**Марыя Ліранава**

Не хацела нават з гэтым жыццё звязваць. Аднак не паступіла туды, куды хацела. Першапачаткова я збіралася ісці вучыцца на выхавальніцу ў БДПУ імя Максіма Танка, але паступіла ў медыцынскі каледж у Маладзечне. Мая спецыяльнасць – «сястрынская справа», я буду медсястрой.

Спачатку было нялёгка, бо ніякага жадання не было. Самае складанае – вывучыць вялікія аб'ёмы інфармацыі. Першы тыдзень увогуле з дзяўчатамі з пакоя плакалі. Хацелася так дзіка дадому. Далей, канешне, прывыклі. Але ўсе пачыналі з дрэнных адзнак.

А ўжо потым пайшла зацікаўленасць. Пачалі вывучаць працэдуры і маніпуляцыі – унутрымышачныя, унутрывенныя ін'екцыі і гэтак далей.

Мы ўжо канчаткова сыходзім на працу, вучоба ў каледжы хутка заканчваецца. Усе шчаслівыя, ніхто не шкадуе. А ў мяне размеркаванне.

Вядома, акрамя медыцыны ёсць і іншыя зацікаўленасці. Раней спрабавала вывучыцца на праграміста, бо IT-тэхналогіі таксама маё ўсё.

> **Каранавіруса не баюся. Ёсць, хутчэй за ўсё, страх заразіць сваіх блізкіх, калі ўжо на тое пайшло.**

За сябе не баюся, бо калі ўжо выбрала медыцыну, то трэба дапамагаць і лячыць.

**Уладзіслаў Бажко**

З медыцынай я знаёмы з моманту свайго нараджэння. Мае бацькі былі студэнтамі медыцынскага ў той перыяд. І ў працэсе свайго сталення назіраў за тым, з чым сутыкаюцца медыкі ў сваім асабістым і прафесійным жыцці. Мне было гэта цікава, і, урэшце, вырашыў звязаць сваё прафесійнае жыццё з медыцынай.

Цяпер вучуся на лячэбным факультэце. Я быў членам беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА. Там пазнаёміўся з 17 мэтамі ўстойлівага развіцця грамадства. Адна з іх супадае з маімі планамі на будучыню: «Памяншэнне няроўнасці ўнутры краін і паміж імі». З майго пункту гледжання, памяншэнне няроўнасці ўнутры краіны азначае магчымасць роўнага існавання людзей з псіхічнымі расстройствамі сярод нас. У будучыні хачу атрымаць спецыяльнасць доктар-псіхіятр-нарколаг.

Без хобі ў медыцыне цяжка. Таму студэнты, каб адпачыць ад вучэбнай нагрузкі, часта займаюцца сваімі любімымі заняткамі. У мяне гэта фатаграфія, заняткі ў спартыўнай зале і бег.

Пра каранавірус магу толькі сказаць, што карціна, выкліканая пандэміяй CODIV-19, у чарговы раз пераканала, што медыцына – тая сфера, без якой жыццё цяпер не можа быць у бяспецы. І я дакладна хачу стаць, а затым развівацца як доктар і будаваць сваю кар'еру ў гэтай сферы.

**Радзівон Грачанік**

Медыцына мяне цікавіла заўсёды, бо гэта спосаб дапамагчы не толькі сабе, але і іншым. А звязаць жыццё з медыцынай вырашыў у 9 класе, калі па біялогіі праходзілі будову арганізма. Тады заўважыў, што гэта тэма мяне захапляе і, больш за тое, лёгка мне даецца.

Я яшчэ вучуся, але спадзяюся, што буду працаваць у хірургіі.

Самае складанае ў вучобе – працэс разумення. Калі параўнаць сучасныя падручнікі і падручнікі часоў СССР, то ў нас напісана значна менш і горш.

Само сабой, ёсць захапленні і акрамя медыцыны. На пастаяннай аснове займаюся спортам і адзінаборствамі. А ў вольны час спрабую разабрацца ў псіхалогіі – гэта дапамагае разумець і кіраваць людзьмі, калі гэта неабходна.

Складана сказаць, кім бы я мог стаць, калі не медыкам. У мяне ёсць тры варыянты – фармацэўтыка, ветэрынарыя або ваенная справа.

> **Па вялікім рахунку, мы ўсе знаходзімся ў зоне рызыкі, не толькі медыкі.**

Таму каранавірус мае планы з вучобай не зменіць.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**




Будучыя медыкі не збіраюцца адмаўляцца ад прафесіі праз пандэмію каранавіруса.

# За 10 год у рэгіёне стала менш жыхароў на цэлыя Ашмяны

**Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў новыя дадзеныя па перапісу насельніцтва, які прайшоў у 2019 годзе.**

Белстат дазавана дае інфармацыю па апошнім перапісе, гэтым разам распавялі пра колькасць насельніцтва па стане на 1 студзеня 2020 года.

«РГ» параўнала лічбы з двух апошніх перапісаў.

**Аддзел інфармацыі.**

**Насельніцтва гарадоў у рэгіёне, тыс. чалавек**

| Горад/год | 2009 | 2019 | Дынаміка |
|---|---|---|---|
| Маладзечна | 94,2 | 91,9 | -2,3 (2,44%) |
| Вілейка | 26,8 | 27,4 | +0,6 (2,24%) |
| Валожын | 10,5 | 9,7 | -0,8 (7,62%) |
| Мядзел | 7 | 7,1 | +0,1 (1,43%) |
| Ашмяны | 14,8 | 16,8 | +2 (13,51%) |
| Астравец | 8,2 | 13,2 | +5 (60,98%) |
| Смаргонь | 36,2 | 36,3 | +0,1 (0,28%) |

**Насельніцтва раёнаў у рэгіёне, тыс. чалавек**

| Раён/год | 2009 | 2019 | Дынаміка |
|---|---|---|---|
| Маладзечанскі | 138,3 | 132,6 | -5,7 (4,12%) |
| Вілейскі | 52 | 48,5 | -3,5 (6,73%) |
| Валожынскі | 37,5 | 34,5 | -3 (8%) |
| Мядзельскі | 29,5 | 26,1 | -3,4 (11,53%) |
| Ашмянскі | 32,4 | 30,8 | -1,6 (4,94%) |
| Астравецкі | 24,2 | 28 | +3,8 (15,7%) |
| Смаргонскі | 55,2 | 50,9 | -4,3 (7,79%) |



Праект забудовы з сайта Вілейскага райвыканкама.

# Школа-садок і двары без аўтамабіляў

## Прэзентавалі праект забудовы Паўночнага-5

ВІЛЕЙКА

**Архітэктары Вілейскага райвыканкама ўпершыню ладзілі прэзентацыю праекта анлайн.**

На думку начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама **Дзмітрыя Гарланава**, гэта прэзентацыя – не апошняя ў рэжыме анлайн. Калі будзе нагода, і гэта будзе зручна для большай часткі мэтавай аўдыторыі, падобныя мерапрыемствы яшчэ будуць праводзіць.

– Гэта прынцыпова іншы падыход. Досведу такой працы мала ў краіне. Хай гэты прыклад натхняе іншых архітэктараў і іншыя райвыканкамы, – адзначыў Дзмітры Гарланаў.

### Будуць ствараць спрыяльнае асяроддзе для жыцця

Горадабудаўнічы праект распрацаваны на падставе рашэння Вілейскага райвыканкама №51 ад 17 студзеня 2019 года.

Сярод мэтаў праекта:

• забеспячэнне комплекснага эканамічна мэтазгоднага развіцця інфраструктуры;
• стварэнне спрыяльнага асяроддзя для жыцця людзей;
• распрацоўка горадабудаўнічай стратэгіі развіцця тэрыторыі з захаваннем і эфектыўным выкарыстаннем прыроднага ландшафту і з захаваннем той забудовы, якая ўжо ёсць.

Новы мікрараён размесціцца ў паўночна-ўсходнім сектары горада. Большая частка тэрыторыі цяпер не выкарыстоўваецца.

### Асноўныя зоны

• Зона шматкватэрнай жылой забудовы для размяшчэння жылых шматпавярховых дамоў.
• Зона грамадскай забудовы для размяшчэння гандлёва-бытавога грамадскага цэнтра.
• Зона грамадскай забудовы для размяшчэння дашкольнай установы адукацыі з пачатковымі класамі на 160 месцаў.
• Зона сядзібнай забудовы для размяшчэння прыватных дамоў.
• Зона транспартнага і інжынернага абслугоўвання.
• З'явяцца першыя дамы – плануюць пачынаць садок.

Па словах начальніка аддзела, дзіцячы садок з пачатковымі класамі запланавалі таму, што школа №5 не зможа прыняць усіх ахвотных. Пасля таго як пачнуць з'яўляцца першыя дамы і засяляцца людзі, а гэта, згодна з рэгламентам дэталёвага плана, пачнецца да канца 2021 года, трэба думаць пра будаўніцтва школы-садка. Але ўсё залежыць ад фінансавых магчымасцяў, і таму прадугледжаны тэрмін рэалізацыі дэталёвага плана да 2027 года.

### Чаму ў дварах не будзе аўтамабіляў

Як адзначылі на прэзентацыі, шматкватэрная забудова квартальнага тыпу прадугледжаная праектам без доступу аўтамабіляў у двары.

Па словах Дзмітрыя Гарланава, двары без аўтамабіляў – гэта сучасны трэнд. А сучасныя трэнды павінны прыходзіць у Вілейку.

Жыхарам мікрараёна, асабліва Паўночнага-2, не падабаецца, што машыны праз іх двары ідуць транзітам, не выконваецца хуткасны рэжым, дварамі карыстаюцца як паркоўкамі і кіроўцы не думаюць пра тое, што побач дзіцячыя пляцоўкі. А гэта выклікае сур'ёзныя канфлікты паміж пешаходамі і аўтамабілістамі.

У дварах новага мікрараёна прыярытэт будзе за пешаходамі. Добраўпарадкуюць велапешаходныя дарожкі. А месцы для паркоўак размесцяць па перыметры за забудовай. Колькасць паркоўачных месцаў будзе роўная колькасці кватэр.

Прадугледжаны скразныя ўваходы як з боку вуліц, так і з боку двароў, але з гэтым ёсць цяжкасці. Па словах начальніка аддзела, па-першае, трэба выбраць добры праект, які ўжо распрацаваны і можа прымяняцца паўторна, па-другое, разлічыць эканамічнасць такой забудовы з улікам лагістыкі і магчымасцяў забудоўшчыкаў.

Шматкватэрныя дамы пабудуюць не вышэйшыя за шэсць паверхаў.

У межах мікрараёна пройдзе аўтадарога Р29. Ужо пабудавалі прыпынкі для гарадскіх аўтобусаў. Інжынернае забеспячэнне прапануюць падключыць да ўжо існуючай інжынернай інфраструктуры. Прадугледжана рэалізаваць праект адным этапам за 2021-2027 гады з улікам інвестыцый і аб'ёмаў фінансавання.


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

**ЛІЧБА НУМАРА**

**2255**

**СТОЛЬКІ Ў БЕЛАРУСІ ПОМНІКАЎ АРХЕАЛОГІІ**

ПАВОДЛЕ САЙТА BELSTAT.GOV.BY

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 9.04 | 16.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5512 | **2.4506** |
| Еўра | 2.7715 | **2.6832** |
| Злоты, 10 | 6.1202 | **5.9084** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3669 | **3.3209** |
| Грыўня, 100 | 9.3549 | **9.0087** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **8.04** | **15.04** |
| Еўра | 2.7300/2.8300 | **2.6500/2.7300** |
| Долар ЗША | 2.5400/2.6000 | **2.4000/2.4800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 8.04 | 15.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,89 | **3,85** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,78 | **8,62** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,10 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,70 | **18,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **1,95** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,90 | **3,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,80** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 7,50 | **7,80** |
| Радыс, пучок | 3,90 | **3,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 11,90 | **13,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,30 | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 7,50 | **8,90** |
| Гранат, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 11,50 | **10,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,50 | **2,60** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## З-за кінутага акурка ледзь не згарэлі дамы ў нежылой вёсцы

Пра тое, што нешта гарыць за вёскай Кузьмічы Любанскага сельсавета, вілейскім выратавальнікам паведамілі 10 красавіка каля дзевяці вечара.

**Калі выратавальнікі прыехалі на месца, убачылі, што гарыць трава ў суседніх Добравічах. Па траве агонь падышоў да дзвюх кінутых гаспадарчых пабудоў, яны згарэлі цалкам.**

Па словах галоўнага спецыяліста інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзяніса Гаўрышчука**, дзякуючы выратавальнікам агонь не паспеў перакінуцца на два дамы, што стаялі побач: адзін выкарыстоўвалі як лецішча, другі стаяў пакінуты. Гэта і ёсць уся вёска. Пастаянна ў ёй ніхто не жыве.

Мяркуюць, што прычынай узгарання стаў акурак, які кінулі каля бліжэйшага лесу. Вінаватых устанаўліваюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Яхімоўшчыне невядомы збіў пешахода. ДАІ шукае сведак

**МАЛАДЗЕЧНА**

У перыяд ад 10 да 16 сакавіка (больш дакладна пацярпелы прыгадаць не можа) каля 20 гадзін пешаход пацярпеў на дарозе ў Яхімоўшчыне.

**Кіроўца на невядомым аўтамабілі, рухаючыся ў Яхімоўшчыне па вуліцы Палачанскай у кірунку 1 Мая, наехаў на 41-гадовага пешахода.**

Той ішоў уздоўж праезнай часткі насустрач руху транспартных сродкаў. У выніку ДТЗ пешаходу прычыненыя цялесныя пашкоджанні, расказаў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

ДАІ просіць сведак і відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: **Маладзечна, вуліца Тамары Дудко, 1-18** або па тэлефонах: **8 (0176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Даў нумар карткі і страціў больш за 600 рублёў

**ВАЛОЖЫН**

Ахвярай махляроў стаў 22-гадовы жыхар Ракава. 6 красавіка ён звярнуўся ў міліцыю з заявай, што з яго карт-рахунка зніклі грошы.

Выбыўшы на месца здарэння, міліцыянеры ўстанавілі, што пацярпелы стаў ахвярай падману і сам перадаў зламысніку нумар сваёй банкаўскай карты і дадзеныя пашпарта.

У сацыяльнай сетцы «Укантакце» са старонкі сябра пацярпеламу прыйшло паведамленне з просьбай скінуць нумар банкаўскай карты нібыта для таго, каб туды перавесці грошы. Не пераканаўшыся ў тым, што піша гаспадар старонкі, пацярпелы паведаміў усе неабходныя дадзеныя, пасля чаго грошы з яго карт-рахунка зніклі.

Пацярпелы пазбавіўся больш за 600 беларускіх рублёў. Распачатая крымінальная справа па ч. 2 арт. 212 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – крадзеж шляхам выкарыстання камп'ютарнай тэхнікі.

Як паказвае практыка, знайсці злачынцу і вярнуць грошы ўладальніку карткі практычна немагчыма.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Скралі ровар, хоць ён быў прышпілены

**МАЛАДЗЕЧНА**

9 красавіка жыхар Маладзечна звярнуўся ў РАУС: у ноч з 8 на 9 красавіка з пад'езда выкралі горны ровар «Стэлс Навігатар 600» сіне-чорна-белага колеру.

На месцы здарэння працавала следча-аператыўная група. Яны высветлілі, што невядомы скраў ровар у прамежак часу ад васьмі вечара 8 красавіка да 11 дня 9 красавіка. Злодзей свабодна пранік у пад'езд. Ровар стаяў на пляцоўцы паміж 2 і 3 паверхамі, яго прышпілілі да поручня ў доме па вуліцы Скарыны, 14. Заяўнік ацаніў шкоду ў 310 рублёў, паведамілі ў Маладзечанскім РАУС.

Маладзечанская міліцыя нагадвае, што нельга трымаць ровары ў пад'ездах. Нават калі прышпілены – гэта не перашкаджае зламыснікам. Захоўванне ровараў, калясак і іншай маёмасці ў пад'ездах забаронена!

**Аддзел інфармацыі.**




Нецвярозы майстар сеў за руль чужой машыны і пашкодзіў яе.

# Аддала машыну ў рамонт, а п'яны майстар паехаў на ёй катацца

**СМАРГОНЬ**

**У Смаргоні следчыя распачалі крымінальную справу за крадзеж іншамаркі. Пад падазрэннем у злачынстве – 30-гадовы мясцовы жыхар. Мужчына ўзяўся рамантаваць чужую машыну і п'яным ездзіў на ёй па горадзе.**

Усё здарылася ў канцы сакавіка. Сарагакагадовая смаргонка прыгнала мясцоваму майстру сваю «Таёту». У аўтамабілі трэба было выдаліць карозію і замяніць лабавое шкло. У выніку замест гэтага ўладальніца забрала іншамарку з дадатковымі пашкоджаннямі.

– Следча-аператыўная група ўстанавіла, што аднойчы ў госці да падазраванага прыйшоў знаёмы, з якім яны сталі піць гарэлку ў салоне машыны, што рамантавалася. Падчас распівання майстар прапанаваў на ёй пакатацца.

Праз некалькі гадзін п'янай язды, у тым ліку па бездаражы, фігурант прыпаркаваў транспарт у адным гаражы. На наступны дзень падазраваны прыйшоў па машыну, каб перагнаць яе на ранейшае месца, але абарона рухавіка і пярэдні бампер былі пашкоджаныя.

Памяў кіроўца і заднія дзверы, калі выязджаў з бокса, – распавялі ў Смаргонскім РАУС.

На сустрэчы з гаспадыняй аўто мужчына ва ўсім прызнаўся і абяцаў усё ліквідаваць. Жанчына яму не паверыла, забрала іншамарку і звярнулася па дапамогу ў міліцыю. Вядома, што раней фігурант прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за кіраванне аўтамабілем у стане алкагольнага ап'янення, а таксама да адміністрацыйнай адказнасці за распіванне алкагольных напояў у грамадскім месцы.

**Паводле МУС.**

## Міліцыя дапаможа сталым і абароніць іх ад махляроў

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У сённяшняй няпростай сітуацыі праваахоўнікі гатовыя дапамагчы адзінокім пенсіянерам Маладзечаншчыны.**

Цяпер сацыяльная функцыя праваахоўнікаў – прыярытэтная. Міліцыянеры па тэлефоне праводзяць з пенсіянерамі прафілактычныя гутаркі, распавядаюць пра схемы падману з боку заезджых злачынцаў.

Праваахоўнікі цікавяцца, з кім жывуць пажылыя і састарэлыя грамадзяне. Калі з раней судзімымі асобамі, то міліцыя ўдакладняе паводзіны сямейнікаў, іх лад жыцця і кантакты.

Атрыманую інфармацыю пра патрэбу сталых адзінокіх людзей і інвалідаў у прадуктах і леках міліцыянеры перадаюць у адпаведныя раённыя службы. Гэтыя меры дазволяць мінімізаваць рызыкі рэспіраторных захворванняў. Міліцыя просіць грамадзян з разуменнем паставіцца да падобных званкоў ад прадстаўнікоў праваахоўных органаў.

Як адзначаюць у Галоўным упраўленні крымінальнага вышуку МУС, у рэспубліцы назіраецца ўсплёск злачынстваў, звязаных з падманам насельніцтва. Зняцце псоты і продаж танных тавараў пад выглядам дарагіх – асноўныя хітрыкі, на якія трапляюцца ахвяры.

У Беларусі былі выпадкі, калі невядомыя заходзілі да сталых людзей і, быццам бы здымаючы псоту, кралі ў іх дарагія рэчы. У Маладзечанскім рэгіёне падобныя факты крадзяжу не зафіксаваныя.

Міліцыя просіць сталых людзей быць пільнымі, ні пад якой падставай не адчыняць дзверы незнаёмцам. Ашуканцы трапляюць у дом да пенсіянераў, як правіла, пад выглядам сацыяльных работнікаў, медработнікаў, прадстаўнікоў камунальных службаў, іншых раённых структур. Часта выступаюць у ролі прадаўцоў, прапаноўваючы купіць тавар, кошт на які першапачаткова завышаны.

Маладзечанскі РАУС настойліва рэкамендуе растлумачыць блізкім людзям сталага ўзросту, што ў выпадку наведвання іх дома незнаёмымі неабходна паглядзець пасведчанне іх асобы. Пры ўзнікненні сумненняў тэлефанаваць на нумар **102**.

**Юлія КРУК,**
**афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.**



# Пяць крокаў для бяспекі на кухні

Фота Настассі УТКІНАЙ.

**У час, калі многія людзі перайшлі на самаізаляцыю, большасць закупляюць прадукты надоўга. Мы падрыхтавалі парады, якія дапамогуць радзей хадзіць у магазін і разам з тым трымаць кухню ў бяспецы.**

### 1. Падтрымлівай чысціню

– Мый рукі перад кантактам з прадуктамі і падчас гатавання.

– Мый рукі пасля туалета.

**– Мый і дэзінфіцыруй усе паверхні і ўсе прыборы, якія выкарыстоўваеш падчас гатавання.**

– Паклапаціся, каб у кухні не было насякомых, жывёл.

*Чаму гэта важна?*

Большасць мікраарганізмаў, якія ёсць вакол нас, не выклікаюць хвароб. Аднак некаторыя з іх, якія знаходзяцца ў вадкасцях, вадзе, на целе жывёл і людзей, могуць быць небяспечнымі. Яны пераносяцца на руках, адзенні, тэхніцы і посудзе, напрыклад, на днушках. Нават кароткі кантакт з імі можа перанесці іх на прадукты і прывесці да з'яўлення інфекцый органаў стрававання.

### 2. Раздзяляй сырыя і гатовыя прадукты

– Сырое мяса і морапрадукты кладзі асобна ад іншых прадуктаў.

– Для гатавання сырых прадуктаў выкарыстоўвай асобны посуд (напрыклад, нажы і днушкі).

– Захоўвай іх у асобных кантэйнерах, каб не дапусціць кантакту сырых і прыгатаваных прадуктаў.

*Чаму гэта важна?*

**Сырыя прадукты, у першую чаргу мяса, тушкі птушак, морапрадукты і рэшткі гэтых прадуктаў, могуць утрымліваць небяспечныя мікраарганізмы.**

Заўсёды ёсць небяспека іх пераносу на іншыя прадукты падчас гатавання або захоўвання.

### 3. Гатуй старанна

– Старанна гатуй, у першую чаргу, мяса, яйкі і морапрадукты.

– Такія стравы, як суп, даводзь да кіпення, каб быць упэўненым, што яны прагрэліся да 70 градусаў. Пераканайся, што вадкасць, якая з'яўляецца пры націсканні на мяса падчас гатавання, мае празрысты, а не ружовы колер.

– Падаграваючы прадукты перад ядой, упэўніся, што яны прагрэліся да 70 градусаў.

*Чаму гэта важна?*

Якасная тэрмічная апрацоўка забівае амаль усе небяспечныя мікраарганізмы. Даследаванні паказваюць, што падагрэў прадуктаў да 70 градусаў дапамагае падтрымліваць бяспеку для чалавека. Асаблівую ўвагу звяртай на фарш, вялікія кавалкі мяса і цэлыя тушкі птушак.

### 4. Захоўвай прадукты пры патрэбнай тэмпературы

– Не пакідай прыгатаваныя прадукты пры пакаёвай тэмпературы даўжэй, чым на дзве гадзіны.

– Усе прыгатаваныя стравы, якія лёгка псуюцца, захоўвай у халадзільніку, лепш за ўсё пры тэмпературы ніжэй за 5 градусаў.

– Падтрымлівай высокую тэмпературу (вышэй за 60 градусаў) гатовых страў перад падачай на стол.

– Не захоўвай прадукты надта доўга, нават калі яны стаяць у халадзільніку.

– Не размарожвай замарожаныя прадукты пры пакаёвай тэмпературы. Лепей пакладзі прадукт у цёплую ваду або выкарыстай ацяплальныя прыборы.

*Чаму гэта важна?*

**Мікраарганізмы могуць размнажацца вельмі хутка, калі прадукт знаходзіцца пры пакаёвай тэмпературы.**

Падчас захоўвання прадуктаў пры тэмпературы ніжэй за 5 або вышэй за 60 градусаў мікраарганізмы размнажаюцца нашмат павольней або не размнажаюцца ўвогуле. Аднак памятай, што некаторыя мікраарганізмы размнажаюцца і пры тэмпературы ніжэй за 50 градусаў.

### 5. Выкарыстоўвай бяспечную ваду і прадукты

– Выкарыстоўвай бяспечную ваду або падрыхтуй яе да выкарыстання, каб яна стала бяспечнай.

– Для харчавання выбірай толькі свежыя і якасныя прадукты.

**– Выбірай прадукты, прыгатаваныя такім чынам, каб яны былі бяспечныя (напрыклад, пастэрызаванае малако).**

– Добра мый садавіну і гародніну, асабліва калі ясі іх сырымі.

– Не выкарыстоўвай прадукты, у якіх скончыўся тэрмін прыдатнасці.

*Чаму гэта важна?*

Сырыя прадукты, у тым ліку вада і лёд, могуць быць забруджаныя шкоднымі мікраарганізмамі і хімічнымі элементамі.

**Пашкоджаныя прадукты і прадукты з цвіллю могуць мець у складзе таксічныя элементы.**

Уважліва выбірай сырыя прадукты і выкарыстоўвай простыя метады (напрыклад, мыццё ці абіранне лупін), якія могуць паменшыць рызыку захворвання.

**Падрыхтавала Аляксандра ПАРАХНЯ на аснове парадаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.**

## Некалькі парадаў для дбайных гаспадароў

• Калі ходзіш на закупы з фруктоўніцамі і палатнянымі торбамі, мый пасля кожнага паходу ў магазін. Вярнуўшыся дамоў, не кладзі іх на кухонны стол.

• На бяду эколагам, рэкамендуюць браць запакаваныя прадукты, бо фірменная ўпакоўка дае большую гарантыю бяспекі.

• Прадукты ў бутэльках, слоіках, упакоўках санэпід пакуль не ўлічылі ў пераносе вірусу. Але калі вы непакоіцеся, то іх лёгка можна памыць.

• Для распаўсюджвання вірусам патрабуецца гаспадар – чалавек, таму калі вы паставіце прадукты і не будзеце іх чапаць тры дні, то вірусы самі сабой прападуць.

• Лепей адмовіцца ад піцця напояў з бляшанак (алкаголь, газіроўка), бо там ёсць непасрэдны кантакт вуснаў з паверхняй, якая пылілася ў краме і на складзе.

• Дэзінфіцыруйце нож перад адкрыццём кансерваў.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

МАЛАДЗЕЧНА — Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ — вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ — вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН — вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА — вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ — вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ — вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ВІНШАВАНКА

**Насці ГОРБАНЬ з Маладзечна**

Дарагая наша Настачка! Віншуем цябе з тваёй першай круглай датай – **10-годдзем.** Жадаем табе, наша родная, каб у цябе было шмат усяго добрага, цудоўнага, выдатнага – добрых сяброў, цудоўнага настрою, выдатных адзнак, моцнага здароўя. Няхай табе заўсёды ўсміхаецца сонейка, збываюцца мары, а жыццё будзе насычанае яркімі фарбамі, незабыўнымі адчуваннямі і толькі станоўчымі эмоцыямі. Мы цябе вельмі любім.

**Твае мама, тата і бабуля.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Нісан-Прэм'ера, 1999 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 5080447.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706, (8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дача ў Асінаўцы. Участак 10 сотак. Смаргонь. Т. (8-033) 3591382, МТС (8-044) 5622655.*

• Дом недабудаваны ў рысе горада Астравец. Побач лес і возера. Т. (8-029) 5322793.*

• Дом у аграгарадку Гальшаны па вул. Замкавай. Ёсць газ, водаправод, каналізацыя. Т. (8-029) 5846900.*

• Дом у вёсцы Асінаўка, 2 м ад возера. Т. (8-033) 3591382, МТС (8-044) 5622655.*

• Дом у Вілейцы, 45 кв.м, драўляныя гаспадарчыя пабудовы, пячное ацяпленне, калодзеж, 13 сотак зямлі. Т. (8-033) 6671169.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (свравжын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (свраважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вагонка для лазні, паліц, вольха, дошкі для падлогі, паганажныя вырабы, брускі і інш. ПП «Маркіна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029)1891477, (8-029)2518322.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ЗДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Прадам дзве дзіцячыя ванначкі для купання (па 10 руб.), кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), электрычны малакаадсос (30 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

• **УНІВЕРСАЛЬНЫ ФУГАВАЛЬНЫ ВАЛ НОВЫ. Т. (8-029) 9430353.***

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Арматуру, вугалок, прафіль.Т. (8-029) 3068662.*

• Бульбу буйную. Т. (8-029) 2637474, (8-029) 3757244, (8-033) 6316371.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Прадавец у а.г. Палачаны. Прыстойнасць, адказнасць, з/п аклад + прэміі. Т. (8-029) 6383331.*

• Шукаем сядзелку для пажылой ляжачай жанчыны. З пражываннем. (Вілейскі раён, в.Старынкі). Умовы работы абмяркоўваюцца. Т. (8-029) 6575037.







**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |





## СПАЧУВАННІ

Глыбока смуткуем з прычыны смерці паэта і журналіста з Маладзечна **Валерыя Маркелава** і выказваем шчырыя спачуванні яго жонцы карэспандэнту маладзечанскага тэлебачання **Але Маркелавай,** дзецям, родным і блізкім. Мы падзяляем вашы боль і смутак. Трымайцеся!

**Калектыў «Рэгіянальнай газеты».**

Не стала былога калегі, сябра **Валерыя Маркелава**, нікалі з-пад яго пяра не выходзілі ... 

Не стала былога калегі, сябра **Валерыя Маркелава**, нікалі з-пад яго пяра не вылыюцца цудоўныя радкі, прысвечаныя каханню. На кожную падзею ён адгукаўся вершамі, шмат прысвячаў экспромтам, нікалі не забываў павіншаваць з адметнай датай. І сёння мне маркотна і балюча, што нікалі ўжо мы не сустрэнемся ў гэтым жыцці, нікалі не пачую: «О, прывітанне! Паслухай, я толькі што напісаў, што на гэта скажаш?» Я смуткую разам з вамі, **Ала**, **Святлана** і **Кацярына**, і падзяляю боль страты. Будзьце моцнымі і мужнымі.

**Марыя Бераснева.**

Вельмі засмучаны з прычыны смерці **Валерыя Маркелава** і шчыра спачуваю жонцы **Але Пятроўне**, дзецям і блізкім памерлага. Яшчэ раз маё вам спачуванне.

**Аляксандр Салагуб.**

# Што рабіць, каб не захварэць на шаленства

**На ўсёй Маладзечаншчыне ўжо некалькі гадоў назіраецца неспрыяльная эпізаатычная абстаноўка. 40 выпадкаў шаленства сярод жывёл было ў 2017 годзе, 36 – у 2018 годзе, 11 выпадкаў – у 2019. Чатыры выпадкі ўстанавілі ўжо сёлета.**


Фота mir24.tv.
У большасці выпадкаў здаровая ліса не ідзе да людзей.

МАЛАДЗЕЧНА

### Ад смерці выратоўвае своечасовы зварот да доктара

Нягледзячы на інфармаванасць насельніцтва пра тое, што захворванне на шаленства ў ста працэнтах заканчваецца смерцю, штогод пры кантакце з хворымі на шаленства жывёламі пакутуюць сталыя людзі і дзеці.

У 2017 годзе ў кантактах з шалёнымі жывёламі пацярпелі шэсць дарослых і адно дзіця, у 2018 годзе – 12 дарослых і адно дзіця, у 2019 годзе – шэсць дарослых. За мінулы перыяд гэтага года – трое дарослых і адно дзіця.

У кожным з гэтых выпадкаў ад немінучага смяротнага зыходу пацярпелых выратаваў толькі своечасовы зварот па антырабічную дапамогу і прызначэнне поўнага курсу антырабічнай лячэбна-прафілактычнай вакцынацыі.

### Чаму дзікая жывёла ідзе да людзей

Усё часцей ад насельніцтва сталі паступаць паведамленні пра тое, што яны бачылі дзікую лісу паблізу населеных пунктаў, аўтамабільных дарог.

З'яўленне ў такіх месцах не характэрна для здаровых дзікіх жывёл. Яны звычайна баяцца чалавека і шумных месцаў.

Некаторыя неабачлівыя людзі, карыстаючыся выпадкам, забіваюць жывёлу і здымаюць шкуру. Безумоўна, так рабіць нельга.

Жывёла можа аказацца шалёнай, і пры кантакце з трупам хворай жывёлы чалавек можа заразіцца на шаленства.

### Не марудзьце са зваротам да медыкаў

Улічваючы сітуацыю, якая склалася, неабходна выключыць усялякія кантакты з дзікімі жывёламі і негатыўныя кантакты (укусы, драпіны, абсліньванні) з дамашнімі жывёламі. Гэтаму неабходна навучыць і дзяцей.

Калі падобныя кантакты былі, неабходна неадкладна звярнуцца па кваліфікаваную медыцынскую дапамогу ў траўматалагічны пункт бальніцы №1 або прыёмны пакой дзіцячай бальніцы.

Тут дактары аказваюць лячэбна-прафілактычную дапамогу пры небяспецы захворвання на шаленства кругласутачна.

Вам таксама дапамогуць разабрацца ў сітуацыі, падкажуць, калі лячэнне неабходнае, а калі – не.

Марудзіць са зваротам да доктара не варта. Бо ў гэтай сітуацыі час іграе супраць вас.

**Маргарыта ПРАЦКОВА,**
**доктар-эпідэміёлаг Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

---

# Увага! Газаправод




**Нягледзячы на тое, што праводзіцца вялікая работа па прафілактыцы парушэнняў пры будаўнічых і земляных работах, усё ж ёсць выпадкі пашкоджання падземных газаправодаў.**

У выніку адбываецца адключэнне спажыўцоў ад газазабеспячэння, наносяцца матэрыяльныя страты, ствараецца аварыйная абстаноўка, узнікае пагроза здароўю і жыццю насельніцтва, персаналу, якi там працуе.

З мэтай захаванасці ўздоўж газаправодаў устаноўленыя наступныя ахоўныя зоны (ад восі газаправода з кожнага боку): для нізкага ціску – 2 метры, сярэдняга ціску – 4 метры, высокага ціску II катэгорыі – 7 метраў, высокага ціску I катэгорыі – 10 метраў.

Філіял ВУ «Маладзечнагаз» звяртае ўвагу кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўладальнікаў прыватных дамоў на выкананне мер бяспекі пры правядзенні земляных работ у ахоўных зонах газаправода.

Згодна з «Палажэннем аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы, памерах і рэжыме іх выкарыстання», зацверджаным пастановай Савета Міністраў РБ ад 06.11.2007 №1474, для пачатку работ у месцах размяшчэння газаправодаў як юрыдычным, так і фізічным асобам неабходна атрымаць пісьмовы дазвол ад газазабеспячэнскай арганізацыі, удакладніць на мясцовасці, дзе пралягае газаправод, для чаго папярэдне (за суткі) выклікаць прадстаўніка газавай гаспадаркі. Перад пачаткам раскопак для ўдакладнення размяшчэння газаправодаў і глыбіні іх залягання выканаўца работ абавязкова павінны зрабіць шурфаванне (кантрольнае ўскрыццё) газаправода пад наглядам прадстаўніка філіяла ВУ «Маладзечнагаз». Пры гэтым выканаўца работ павінны абазначыць трасы газаправода і збудаванняў на ім, іх захаванасць на ўвесь перыяд правядзення работ.

### У ахоўных зонах газаправодаў ЗАБАРАНЯЕЦЦА:

- закладанне падмуркаў будынкаў і збудаванняў;
- распрацоўка грунту на адлегласці менш за два метры ад восі газаправода, сцен ГРП і іншых газавых збудаванняў;
- самавольна адкрываць люкі газавых калодзежаў, адкрываць і закрываць краны і засаўкі, устройваць звалкі, выліваць агрэсіўныя вадкасці, складзіраваць матэрыялы і абсталяванне ўздоўж трасы падземнага газаправода ў межах 2,0 м па абодва бакі ад яго восі;
- высаджваць дрэвы і кусты ў межах 1,5 м па абодва бакі ад газаправода, разводзіць агонь.

**ПАМЯТАЙЦЕ!** Парушэнне патрабаванняў «Палажэння аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы...» і пашкоджанне газаправода можа прывесці да выбуху, чалавечых ахвяр, матэрыяльных страт, спынення газазабеспячэння спажыўцоў і цягне за сабой складанне пратакола на вінаватую асобу з накладаннем штрафу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь.

**Выплата штрафу не вызваляе вінаватых ад пакрыцця нанесеных матэрыяльных страт ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.**

**Філіял ВУ «Маладзечнагаз».**

УНП 100008077

## Студэнты педагагічнага ўніверсітэта пачалі весці ўрокі праз інтэрнэт

Ад 13 красавіка Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт распачаў рэспубліканскі адукацыйны анлайн-праект «Будучыя педагогі – дзецям».

Праект складаецца з серыі анлайн-урокаў для школьнікаў 1-11 класаў па вучэбных прадметах.

**Урокі будуць складацца з эксперыментаў, доследаў, дэманстрацый, навукова-папулярнай інфармацыі. Іх правядуць студэнты старэйшых курсаў, навучэнцы педагагічных класаў.**

Першыя ўрокі прайшлі па рускай літаратуры, англійскай мове, інфарматыцы, хіміі, геаметрыі.

Анлайн-заняткі пройдуць і для навучэнцаў педагагічных класаў па факультатыўных прадметах.

Трансляцыя ўрокаў праходзіць на афіцыйным YouTube-канале БДПУ. Пасля іх правядзення школьнікі і вучні педагагічных класаў змогуць задаваць пытанні ў чаце.

**Паводле паведамлення БДПУ.**

## Замест выпуску шароў на выпускных пасадзяць кветкі або дрэвы

Адпаведны загад выйшаў 8 красавіка.

**Апошні званок для 9 і 11 класаў пройдзе 30 мая ва ўстановах адукацыі акрамя Мінска. У сталіцы – 29 мая.**

Выпускныя вечары пройдуць 10 і 11 чэрвеня.

Таксама міністэрства пастанавіла замяніць выпуск шароў у паветра іншым дзеяннем – пасадзіць кветкі або дрэвы.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота gannett-cdn.com.

У пасажыраў таксі павінна быць магчымасць аплаціць паездку карткай.

# Як павінны прымаць наяўныя грошы таксі

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне інфармуе, што пры выкананні перавозак пасажыраў аўтамабілямі-таксі прыём наяўных грашовых сродкаў павінны ажыццяўляцца з прымяненнем касавых апаратаў, сумешчаных з таксометрам.**

Таксометр – спецыяльнае абсталяванне аўтамабіля-таксі, сумешчанае з касавым апаратам, прызначанае для аўтаматычнага вызначэння аплаты за праезд, інфармавання пасажыра аб памеры аплаты, а таксама ўліку паказчыкаў працы і рэжымаў выкарыстання аўтамабіля-таксі.

У адпаведнасці з заканадаўствам кіроўца аўтамабіля-таксі абавязаны пасля пасадкі пасажыра пачынаць рух з уключаным таксометрам.

**Кіроўцу аўтамабіля-таксі нельга перавозіць пасажыраў з няспраўным або выключаным таксометрам.**

За паслугі аўтамабіляў-таксі аплата можа ажыццяўляцца як наяўнымі грашовымі сродкамі, так і безнаяўным шляхам з выкарыстаннем банкаўскіх плацежных картак, што дае спажыўцам такіх паслуг права выбару па іх аплаце і дазваляе пазбегнуць непрыемных сітуацый з разменам грашовых сродкаў пры выдачы рэшты.

Такім чынам, у аўтамабілі-таксі павінны быць усталяваны плацежны тэрмінал для праўядзення разлікаў з выкарыстаннем банкаўскіх плацежных картак.

**У пасажыра павінна быць магчымасць аплаціць паслугі па перавозцы з дапамогай банкаўскай карткі.**

Па заканчэнні перавозкі для пацвярджэння аплаты праезду ў аўтамабілі-таксі кіроўца абавязаны выдаць пасажыру касавы чэк.

**Паводле інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

# 11 красавіка прайшоў дзень памяці вязняў канцлагераў

**Дарагія нашы бацькі, дарагія бабулі і дзядулі!**

75 гадоў таму перагарнулася страшная старонка вашага жыцця. Верагодна, тады, у далёкім дзяцінстве і юнацтве, вам здавалася, што самае цяжкае ззаду і што разам з вызваленнем з нацысцкай няволі наступіць стагоддзе шчасця, калі жыццё прыме вас у свае ласкавыя абдымкі, будзе толькі ўсміхацца і дарыць радасць. Аднак лёс распарадзіўся інакш і да гэтага часу працягвае выпрабоўваць ваша пакаленне на трываласць, жыццялюбства і цярпенне.

Вось і цяпер, у такія важныя для ўсіх нас дні, вы пазбаўленыя магчымасці бесклапотна абняць сваіх родных, адчуць плячо адзін аднаго, сабраўшыся ў адной зале для сумесных успамінаў, атрымаць асалоду ад агульнай радасці ў коле блізкіх і сяброў.

Тым не менш, наша жыццё напоўненае думкамі пра вас, трывогай аб вашым здароўі і бяспецы. А вы ў чарговы раз падаеце нам прыклад упэўненасці, асабістай адказнасці і мудрасці.

Жадаем вам здароўя і сіл, каб атрымліваць асалоду ад кожнага дня ў гэтым жыцці, дабрабыту, каб цяпло зыходзіла не толькі ад вашых сэрцаў, але і ад дамашняга ачага, ад увагі і падтрымкі навакольных людзей.

І хоць мы не можам быць побач у гэтыя дні, прыміце нашы самыя шчырыя і добрыя словы ў сувязі з Міжнародным днём вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў і віншаванні з надыходзячым днём 75-годдзя заканчэння Вялікай Айчыннай вайны.

**Ваша МГА «Узаемаразуменне». Фонд «Памяць, адказнасць і будучыня». Праграма «Месца сустрэчы: дыялог».**

# Спектаклі і экскурсіі трансліруюць у інтэрнэце

МАЛАДЗЕЧНА

**У час, калі з-за пандэміі раяць заставацца дома, сфера культуры дапамагае пераасыць няпросты перыяд. На мінулым тыдні маладзечанскія тэатры правялі шэраг трансляцый.**

### «Батлейка»

Кіраўніцтва тэатра лялек патлумачыла, што, канешне, выступаць перад пустой залай крыху няёмка. Але затое анлайн-трансляцыі дазволілі паказаць спектаклі адразу тысячам гледачоў.

«Батлейка» паказала спектаклі «Тры парасяці» і «Казкі з куфэрка». Іх можна паглядзець у сацыяльных сетках тэатра.

### Драмтэатр

Мінскі абласны драматычны тэатр, што месціцца ў Маладзечне, даў анлайн-трансляцыі як дзіцячых спектакляў, так і дарослых. «Казка пра чырвоную стужачку», «Банкет», «Непаслухмяная запалка», «Афінскія вечары», «Каханне. Сабака@. Кропка.ru» – усе гэтыя спектаклі ўжо паглядзелі тысячы гледачоў.

– Мы нават не чакалі такіх вынікаў па праглядах, – сказаў дырэктар тэатра **Юры Крывенькі**. – Акцёры прывыклі працаваць на публіку і атрымліваць аддачу. А тут згубленая сувязь з гледачом. Але нічога, настроіліся, яны разумеюць, што гэта наша місія. Перажывалі. Вельмі прыемна, што мы атрымалі столькі станоўчых водгукаў. Многія пісалі, што пасля прыедуць паглядзець ужывую. Гэта сітуацыя нас пераключыла, і станоўчага ў выніку бачу больш. Мы сталі заўважаць адзін аднаго, убачылі, якія кволыя. Пандэмія паказала, як мала часу мы аддаём дому, сям'і, дзецям. І мы можам гэта кампенсаваць цяпер. Сямейны прагляд – тое, што можа згуртаваць. Галоўнае – выстаяць, каб хапіла сіл. Унутраны дух многае дае.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Мінскі абласны драматычны тэатр у Маладзечне зладзіў шэраг спектакляў анлайн для гледачоў.

### Музей

Мінскі абласны краязнаўчы музей, які таксама знаходзіцца ў Маладзечне, адаптаваўся да новых умоў. Цяпер работнікі музея пастаянна выкладаюць ролікі пра экспанаты ў сацыяльных сетках.

Дырэктар музея **Алена Чарнецкая** распавяла, што і цяпер у музеі ладзяць выставы, а работнікі працягваюць працу. А вось наведнікаў няма. Таму вырашылі расказваць пра творы і экспанаты ў невялікіх відэаролікаах. Так маладзечанцы, седзячы дома, могуць даведвацца пра новае.

Спачатку здымалі па роліку штодзень, а часам і па некалькі. Цяпер вырашылі крыху сцішыць тэмп, каб наведнікам было цікава прыходзіць і ў музей, калі гэта будзе магчыма. Работнікам давялося навучыцца новай ролі і распавядаць пра экспанаты на відэа. Затое пазнавальныя ролікі могуць убачыць усе ахвотныя.

Цяпер у музеі ідзе выстава «Перамога. Адна на ўсіх!», прысвечаная 9 Мая. У межах выставы шмат вырабаў з прыродных матэрыялаў ад удзельнікаў клуба «Фантазія», дзве вітрыны прысвечаны творам Стэфаніі Станюты.

Паказваюць на відэа і часткі пастаянных экспазіцый музея. У планах музея – стварыць анлайн-экскурсію для віртуальных наведнікаў музея.

### Бібліятэка

У цэнтральнай раённай бібліятэцы таксама разумеюць сітуацыю. Калі чытачы не здалі своечасова кнігі, то могуць патэлефанаваць і папрасіць працягнуць тэрмін карыстання. У бібліятэцы імкнуцца падыходзіць да кожнага чытача індывідуальна і з паразуменнем.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Бяспечнае карыстанне газам у быце

**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак варта ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

Штогод у Беларусі адбываюцца няшчасныя выпадкі, у выніку якіх ёсць пацярпелыя, часам са смяротным зыходам. Трагічная іронія ў тым, што, каб жыхары захоўвалі самыя элементарныя правілы, выкладзеныя ў інструкцыі па эксплуатацыі газавага абсталявання і ў Правілах карыстання газам у быце, – гэта дапамагло б пазбегнуць падобных здарэнняў і няшчасных выпадкаў.

Пры спальванні газавага паліва, калі недастаткова паступае кіслароду (закрытая фортачка, няспраўная вентыляцыя), то з прычыны няпоўнага згарання выдзяляецца чад (CO), які пры працы газавага ацяпляльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Пры няспраўнасці дымавых каналаў прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне. У выніку можа адбыцца атручэнне чадам.

Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

**Як выявіць чад? Для гэтага выкарыстоўваюцца спецыяльныя дэтэктары чаду.**

Усталюйце **дэтэктары чаду (датчык CO)** на кожным паверсе вашага дома, паблізу спальных пакояў для своечасовага папярэджання аб небяспецы.

Звяртаем вашу ўвагу, што **пажарныя апавяшчальнікі (датчыкі дыму), датчыкі (прыборы) выяўлення ўцечкі бытавога газу чад не выяўляюць.**

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

Сярод усіх жыццёвых каштоўнасцяў, несумненна, самай важнай з'яўляецца само жыццё. Задача кожнага чалавека – берагчы жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, **НАГАДВАЕМ:**

– дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць;

– дымавыя і вентыляцыйныя каналы належаць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

- **ацяпляльнага газавага абсталявання** – незалежна ад матэрыялу, з якога яны зробленыя, – перад ацяпляльным сезонам.
- **праточных газавых воданагравальнікаў** – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны зробленыя: цагляныя – не радзей за 1 раз у 3 месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў жараўстойлівага бетону – не радзей за 1 раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавыкарыстальнае абсталяванне, **абавязаныя** выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць.

### Пры эксплуатацыі газавыкарыстальнага абсталявання ЗАБАРАНЯЕЦЦА:

- пакідаць без нагляду ўключаныя газавыя пліты, а таксама выкарыстоўваць іх для абагрэву памяшканняў;
- пакідаць адкрытымі вентылі балонаў, краны, якія знаходзяцца перад газавыкарыстальным абсталяваннем і на ім, пасля таго, як закончыце карыстацца газавым абсталяваннем;
- самавольна падключаць, адключаць, перастаўляць, разбіраць і рамантаваць газавыкарыстальнае абсталяванне;
- зрываць пломбы, устаноўленыя на прыборах уліку расходу газу, і ўмешвацца ў работу прыбораў;
- сушыць рэчы над полымем гарэлак газавай пліты;
- выкарыстоўваць для сну памяшканні, у якіх устаноўленае газавыкарыстальнае абсталяванне;
- эксплуатаваць газавыя катлы і воданагравальнікі пры няспраўных дымавых і вентыляцыйных каналах, пры адсутнасці цягі і актаў праверак тэхнічнага стану каналаў;
- выкарыстоўваць агонь для выяўлення ўцечкі газу з газаправодаў і газавыкарыстальнага абсталявання;
- карыстацца газавыкарыстальным абсталяваннем, якое эксплуатуецца больш за 20 гадоў;
- уключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- устанаўліваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы.

**За парушэнне «Правілаў карыстання газам у быце»**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнская арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за спраўны стан вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, парушэнні патрабаванняў бяспекі пры эксплуатацыі бытавога газавыкарыстальнага абсталявання ўскладаецца на наймальніка (уласніка) жылых памяшканняў і дамоў.

Паважаныя абаненты! Не падвяргайце сваё жыццё і жыццё сваіх родных небяспецы.

**ВУ «Маладзечнагаз».**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Вілейскія могілкі сёння. Новае пахаванне – злева ад манумента.

# На пахаванні польскай паліцыі 1920-х гадоў з'явілася новая магіла

## Ці законна гэта?

ВІЛЕЙКА

**Пра новую магілу на старых пахаваннях, што ўзніклі яшчэ за польскім часам, нам паведамілі вілейскія краязнаўцы.**

– Новая магіла з'явілася на пахаваннях міжваеннага часу сёлета ў сярэдзіне сакавіка. Там пахавалі жанчыну з 1927 года нараджэння. Як так магло атрымацца: гэта ж пахаванне польскай паліцыі. Туды нельга так хаваць людзей.


Фота забяспечанае Дзянісам КАНЕЦКІМ.

Могілкі ў 1930-я гады.

> **Канешне, калі раптам гэта сваячка некага з пахаваных і ёсць адпаведныя дакументы, то гэта ўжо крыху іншая сітуацыя, – кажа вілейскі краязнаўца Дзяніс Канецкі.**

«Рэгіянальная газета» звязалася са спецыялістамі, якія могуць ведаць пра пахаванне, і пабывала на могілках.

У вілейскім касцёле нам расказалі, што касцёл не адказвае за месца пахавання, таму ніякіх каментароў даць не можа.

У аддзеле культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама патлумачылі, што самі нядаўна даведаліся пра гэту сітуацыю і цяпер працуюць над ёй. Высвятляе абставіны і Вілейскі краязнаўчы музей.

У Вілейскай ЖКГ нам расказалі, што ведаюць пра гэта пахаванне.

Яно законнае, бо пахаваная жанчына – сваячка тых, хто пахаваны на гэтай тэрыторыі раней.

> **Адзначылі таксама, што месца было пакінутае спецыяльна для гэтага пахавання.**

Калі «Рэгіянальная газета» прыехала на месца, мы заўважылі, што сапраўды прозвішчы на крыжы з надгробнай магілы і на двух ранейшых помніках, што знаходзяцца побач, супадаюць. Самая ранняя магіла з гэтым прозвішчам датуецца 1939 годам. Тут пахаваны мужчына **Вавжынец К.**, народжаны ў 1894, каля яго ў 1965 – жанчына **Аляксандра К.**, народжаная ў 1896. Помнікі зроблены ў адным стылі.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● КАРАНАВІРУС

## Некаторыя тавары і лекі будуць прадаваць па нормах

У сувязі з тым, што рэзка ўзрос попыт на некаторыя лекі, медыцынскія вырабы і іншыя тавары аптэчнага асартыменту, Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь устанаўлівае ад 10 красавіка да 1 ліпеня нормы аднаразовай рэалізацыі ў аптэках некаторых тавараў.

**Вось спіс гэтых тавараў і нормы аднаразовай рэалізацыі:**

Парацэтамол, таблеткі 200 мг – 40 таблетак.

Парацэтамол, таблеткі 500 мг – 40 таблетак.

Арпетол, таблеткі, пакрытыя плёначнай абалонкай, 100 мг – 40 таблетак.

Арпетол, таблеткі, пакрытыя плёначнай абалонкай, 50 мг – 40 таблетак.

Флустоп, капсулы 75 мг – 10 капсул.

Антысептычныя лекавыя сродкі, у тым ліку аптэчнага вырабу – 2 упакоўкі.

Маска медыцынская, павязка – 10 штук.

Пальчаткі медыцынскія (хірургічныя) – 10 штук (5 пар).

Дэзсродак для апрацоўкі рук (гель, раствор) ва ўпакоўцы аб'ёмам не менш за 100 мл – 2 упакоўкі.

Дэзсродак для апрацоўкі рук (гель, раствор) ва ўпакоўцы аб'ёмам не менш за 1000 мл – 1 упакоўка.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як школьнікі займаюцца дыстанцыйна

СМАРГОНЬ

Вымушаныя канікулы далі магчымасць школьнікам яшчэ адзін тыдзень адпачыць ад вучэбных будняў. Але гэты адпачынак не адносіцца да ўдзельнікаў алімпіяднага руху.

Падчас самаізаляцыі вучні і педагогі сярэдняй школы №7 Смаргоні арганізавалі дыстанцыйную падрыхтоўку да прадметных алімпіяд. Высокаматываваныя вучні атрымліваюць ад настаўнікаў розныя заданні праз сацыяльную сетку «Укантакце», па электроннай пошце або іншых інтэрнэт-рэсурсах, выконваюць іх, адпраўляюць на праверку і атрымліваюць кансультацыі.

Ва ўмовах усеагульнага страху за сваё здароўе такія заняткі – лепшы спосаб адцягнуць увагу ад пандэміі і папоўніць багаж ведаў.

Паважаныя дзеці і настаўнікі, не хварэйце, часцей мыйце рукі і не забывайце пра самаразвіццё!

**Марыя ГОВІЧ, настаўніца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №7 Смаргоні.**

## Тэсты расіянаў з АЭС у Астраўцы зноў пераправяраюць

АСТРАВЕЦ
СМАРГОНЬ

15 расіянам у Астраўцы, якіх шпіталізавалі з падазрэннем на каранавірусную інфекцыю, трэба будзе прайсці чарговае тэсціраванне.

Усё з-за таго, што папярэднія тэсты паказалі супярэчлівыя вынікі, расказаў галоўны дзяржаўны санітарны доктар Гродзенскай вобласці **Мікалай Кендыш**.

Цяпер расіяне знаходзяцца ў Смаргонскай цэнтральнай раённай бальніцы. Пракурор Смаргонскага раёна **Андрэй Клышэвіч** распавёў парталу kraj.by, што на дадзены момант расійскіх рабочых ахоўвае міліцыя:

– Рабочыя жылі ў Астраўцы ў інтэрнаце. У нашу бальніцу іх даставілі ноччу 8 красавіка. У стацыянары кругласутачна дзяжурыць міліцыянер. Ён сочыць, каб пацыенты з Расіі былі ў бальніцы і да іх ніхто не прыходзіў, – сказаў пракурор Смаргонскага раёна.

**Паводле TUT.BY.**

## У рэгіёне пачаў працаваць інфекцыйны шпіталь

ВАЛОЖЫН

Для лячэння пацыентаў з падазрэннем на COVID-19 і з ужо пацверджаным дыягназам у Валожынскай ЦРБ адвялі 80 ложка-месцаў. У Валожынскай цэнтральнай раённай бальніцы адзін з карпусоў перапрафілявалі ў інфекцыйны шпіталь.

Як расказаў галоўны доктар бальніцы **Павел Ганчар**, корпус працуе ў штатным рэжыме, прымае пацыентаў Мінскай вобласці. На дадзены момант усе, хто захварэў, стабільныя, за ўсімі назіраюць медыкі.

– Адзін з паверхаў корпуса адведзены пад рэанімацыйнае аддзяленне, у якім дзесяць ложкаў. У наяўнасці ёсць усё неабходнае абсталяванне для штучнай вентыляцыі лёгкіх. Комплекс укамплектаваны медперсаналам, перагледжаныя графікі для аптымізацыі рэжыму працы і скарачэння часу знаходжання ў ачагу, – распавёў Павел Ганчар.

Галоўны доктар дадаў, што змена медперсаналу, які працуе ў так званай «бруднай зоне», будзе складаць не больш за тры гадзіны.

**Паводле mlyn.by.**

## ЛАГАТЫП








## ФК «АСТРАВЕЦ»

Фота vk.com/fco2020.

# Цясляр і спартыўны энтузіяст. Ісландскі дызайнер зрабіў лагатып для ФК «Астравец»

**У сезоне-2020 у другой лізе згуляе футбольная каманда з Астраўца. Клуб некалькі тыдняў таму прэзентаваў новы лагатып, які распрацаваў ісландскі дызайнер Рафн Гісласан.**

«Рэгіянальная газета» паразмаўляла з Рафнам пра супрацу з астравецкай камандай і беларускі футбол.

### Першае супрацоўніцтва з беларускім клубам

Рафн рабіў лагатыпы для бразільскіх, іспанскіх, англійскіх клубаў і многіх іншых камандаў з розных куткоў свету. Для ісландца праца з «Астраўцом» была першым досведам у беларускім футболе.

**Прадстаўнікі астравецкай каманды знайшлі профіль Гісласана з яго работамі на адным з папулярных рэсурсаў для дызайнераў. Праца над лагатыпам «Астраўца» пачалася з гэтага сакавіка.**

Рафн патлумачыў, што працаваць з астравецкім клубам было лёгка. Ён кантактаваў з чалавекам, у якога добрая англійская мова.

– Я таксама выкарыстоўваў анлайн-перакладчык, каб сачыць за клубам у сацыяльных сетках.

Распрацоўка каманднага лагатыпа праходзіла ў цесным кантакце з клубам.

– Заўсёды, калі працую з клубамі над дызайнам, пытаюся, у першую чаргу, што яны хочуць пабачыць. Лагатып павінны прадстаўляць каманду, паказваць яе каштоўнасці. Мяне папрасілі зрабіць просты, мінімалістычны дызайн. Дуб сімвалізуе горад, таму я пакінуў на лагатыпе лісты дуба і жолуд.

### Працуе цесляром, а дызайн – хобі

Рафн па прафесіі цясляр, але заўсёды быў зацікаўлены ў дызайне. Асабліва яго цікавілі спартыўныя лагатыпы.

– Гэта з-за таго, што я сам гуляў у футбол у юнацтве. Адтуль і зацікаўленасць у лагатыпах.

**Да 2009 года ён не рабіў для камандаў дызайн на камерцыйнай аснове. У 2009-м Рафну прыйшлося спыніць цяслярскую працу з-за захворвання. Тады ісландзец змог прысвяціць час свайму хобі – дызайну. Аднак цяслярства ён не пакінуў.**

Спачатку Рафн зрабіў некалькі лагатыпаў для клубаў з Ісландыі. Потым атрымаў запрашэнне працаваць з замежнымі камандамі. Напрыклад, для гандбольнага клуба з Літвы «Драгунас», для заўзятараў шатландскага ФК «Данфермлін Атлетык» і для шэрагу камандаў з ЗША і Аўстраліі.

Рафн цікавіцца спортам, і для яго не мае значэння, што гэта за від. На першым месцы для Гісласана гэта футбол і гандбол. Яму таксама падабаецца лёгкая атлетыка і баскетбол. У Ісландыі ён заўсёды за каманду «КР», а ў англійскім футболе некалькі дзясяткаў год падтрымлівае «Лідс Юнайтэд».

**– Яшчэ мяне цікавіць іспанскі і нямецкі футбол, але не заўзею ў гэтых чэмпіянатах ні за якія каманды.**

Як спартыўны энтузіяст, я сачу за любым відам спорту, але беларускі футбол ніколі не глядзеў.

Рафн не цікавіўся беларускім футболам да супрацоўніцтва з астравецкім клубам. Але адзначыў, што цяпер будзе сачыць за чэмпіянатам Беларусі.

ФК «Астравец» згуляе ў другой лізе ў дывізіёне разам з ФК «Маладзечна». Першая гульня для астраўчан пройдзе ў гэту суботу з «Івацэвічамі» на выездзе.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Старшыня футбольнай федэрацыі абверг словы міністра аховы здароўя

5 красавіка гульню «Віцебск» – «Смалявічы» перанеслі з Віцебска ў Барысаў. Федэрацыя футбола Беларусі за дзень перад тым матчам апублікавала заяву, што перанос адбыўся ў Барысаў па просьбе «Віцебска» з-за складаных умоў надвор'я. Аднак «Прессбол» паведамляў, што гэта зрабілі менавіта праз складаную эпідабстаноўку.

Міністр **Уладзімір Каранік** на прэс-канферэнцыі місіі СААЗ у Беларусі 11 красавіка заявіў, што матч «Віцебск» – «Смалявічы» перанеслі з-за эпідэміялагічнай абстаноўкі.

Старшыня АБФФ **Уладзімір Базанаў** заявіў:

– Гэта ўвогуле не Караніка справа – агучваць такія моманты. Там сапраўды выпаў снег. Гуляць было немагчыма (на момант апублікавання АБФФ рашэння аб пераносе снегу на полі ў Віцебску не было – заўв. Tribuna.com).

Таксама «Трыбуна» падзялілася, што на момант публікацыі рашэння федэрацыі футбола аб пераносе гульні ў Віцебску на полі снегу не бачылі.

Базанаў распавёў «Трыбуне», што федэрацыя футбола пастаянна маніторыць сітуацыю з каранавірусам, але не мае падстаў спыняць чэмпіянат. Нагадаем, беларускі чэмпіянат з'яўляецца адзіным у Еўропе, які цяпер функцыянуе. Астатнія еўрапейскія краіны спынілі першынство праз пандэмію каранавіруса.

**Паводле by.tribuna.com.**

## «Смаргонь» перамагла «Маладзечна» з лікам 3:0

11 красавіка ФК «Маладзечна» правёў спарынг з ФК «Смаргонь». Гэта была апошняя таварыская гульня маладзечанцаў перад пачаткам сезона.

Лік у гульні адкрыў гулец «Смаргоні» **Халімончыкаў** у першым тайме. Футбаліст забіў з пенальці. Другі гол забіў **Савасцьянаў** са «Смаргоні». Напрыканцы гульні Халімончыкаў аформіў дубль.

Такім чынам, маладзечанцы прайгралі апошнюю гульню ў міжсезоннай падрыхтоўцы.

21 сакавіка каманды ўжо сустракаліся ў таварыскім матчы. Тады маладзечанцы таксама прайгралі, але з буйным лікам – 0:5. Гульня прайшла ў Чысці.

**Настасся УТКІНА.**

## Матчы ў першай і другой лігах пройдуць 18 красавіка

З нашага рэгёна ў чэмпіянаце першай і другой ліг згуляюць тры каманды – ФК «Маладзечна», ФК «Астравец», ФК «Смаргонь».

«Маладзечна» і «Астравец» будуць выступаць у другой лізе. 18 красавіка маладзечанцы згуляюць на выездзе з «Зэльвай». Астраўчане таксама пачнуць сезон не на дамашнім полі – яны сустрэнуцца з «Івацэвічамі».

Смаргонцы згуляюць у першай лізе са «Спадарожнікам».

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Колькасць чаго-небудзь, што змяшчаецца ў далоні са сціснутымі пальцамі.
3. Строгая вымова, рэзкая крытыка.
5. Вопіс чаго-небудзь, сістэматызаваны збор звестак аб нечым.
6. Аконны пераплёт з устаўленым шклом і без яго.
7. Вусная народная творчасць.
10. Пра вельмі неспрыяльныя абставіны, цяжкія ўмовы.
13. Шматразцовы рэжучы інструмент для апрацоўкі паверхні металаў, дрэва, пластмас.
14. Плод дуба.
17. У некаторых краінах Заходняй Еўропы орган гарадскога самакіравання, а таксама будынак, дзе ён размяшчаўся.
18. Скрыўленне ў каленях пярэдніх ног каня, прыроджанае або траўматычнае.
19. Чалавек, які займаецца лоўляй рыбы.
20. Мнагамесны пасажырскі аўтамабіль.
21. Паралелаграм, у якога ўсе бакі роўныя і непрамыя вуглы.
23. Постаць чалавека або жывёлы ў скульптуры, жывапісе.
24. Вышэйшая або сярэдняя навучальная ўстанова.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Валасы на галаве (звычайна ў мужчыны, пышныя, густыя).
4. Эканамічная структура грамадства на пэўным этапе яго развіцця.
8. Тое, што з'яўляецца прадметам узнаўлення, капіравання, спісвання.
9. Ілжывае вучэнне аб уплыве нябесных свяціл на зямныя падзеі і жыццё людзей.
11. Велічыня падатку, які ўстанаўліваецца з кожнай адзінкі абкладання.
12. Знешні контур, вонкавы выгляд, знешняе аблічча прадмета.
15. Часовае ці пастаяннае аб'яднанне ўзброеных сіл.
16. Рух рукі, галавы, які суправаджае або замяняе чалавечую мову.
20. Прадмет або жывая істота, прынесеныя ў дар бажаству паводле абрадаў некаторых рэлігій.
22. Тое, што і напрамак.
25. У буржуазным грамадстве – матэрыяльна незабяспечаныя прадстаўнікі інтэлігенцыі.
26. Дугападобнае перакрыцце праёма ў сцяне.
27. Які жыве, існуе; процілеглае мёртвы.

## Адказы на крыжаванку з №15

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Перабор. 3. Шорах. 4. Рэзюмэ. 5. Дэкор. 9. Дэтэктыў. 11. Бацька. 13. Букет. 14. Пошта. 15. Швабра. 17. Шаман. 18. Балкон. 20. Явар. 21. Сукенка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Дырэктар. 3. Шпора. 6. Каваль. 7. Дэпазіт. 8. Ядро. 10. Ярмо. 12. Дудка. 14. Правал. 16. Сага. 18. Брадвей. 19. Порт. 22. Схема.

## ● ГАРАСКОП НА 17-23 КРАСАВІКА



**АВЕН.** У гэты перыяд зоркі будуць спрыяць ва ўсім, за што будзеце брацца. Галоўнае, каб вы былі актыўныя і браліся за самыя розныя справы. Важна, каб вы знаходзілі час на размовы з сябрамі і блізкімі. Гэта трэба і ім, і вам.



**ЦЯЛЕЦ.** У гэты перыяд будзьце гатовыя да напружаных адносінаў. Многія добрыя магчымасці могуць прайсці міма вас, калі вы не будзеце дастаткова акуратнымі. Пастарайцеся быць удзячнымі людзям, якія вам дапамагалі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Хутчэй за ўсё, вас чакаюць нестандартныя сітуацыі, у якіх давядзецца паказаць сваё майстэрства не толькі прафесійнае, але і лепшыя чалавечыя якасці. Пастарайцеся шукаць лепшае і ў іншых людзях.



**РАК.** Для вас вельмі важна быць на адной хвалі са сваёй камандай. Пастарайцеся паглыбіцца ў планы і перажыванні калег, іх задумы і працэс працы. А па вечарах абавязкова знайдзіце час толькі для сябе любімых.



**ЛЕЎ.** Магчыма, вам давядзецца перагледзець дамоўленасці і нават даўняе партнёрства. Імкніцеся шукаць для сябе выгаду нават у самых няпрыемных сітуацыях. Але памятайце, што выгада не заўсёды бывае на паверхні.



**ДЗЕВА.** Чакайце сюрпрызаў і памятайце, што любы сюрпрыз – магчымасць навучыцца чамусьці новаму. Так што нават не самыя прыемныя сітуацыі стануць выдатным досведам і на самой справе падымуць вас угору.



**ШАЛІ.** Раптоўна ў патрэбны момант вам дапаможа той, ад каго вы менш за ўсё гэтага чакалі. Дзеці або нават канкурэнт – прыслухоўвайцеся да ўсіх, і вы зразумееце, як скарыстаць сітуацыю на сваю карысць.



**СКАРПІЁН.** Вам будзе неабходна больш за ўсё адчуваць блізкасць з дарагімі сэрцу людзьмі. Пастарайцеся зрабіць усё, каб сувязь з імі толькі мацнела. Часам моцныя абдымкі – гэта ўсё, што трэба, каб адчуваць сябе шчаслівым.



**СТРАЛЕЦ.** У гэты час шмат увагі запатрабуе сям'я. Вы будзе вельмі рады магчымасці праводзіць больш часу з любімымі. Але пастарайцеся прыўносіць у адносіны штосьці новае, што будзе не толькі прыемна, але і карысна.



**КАЗЯРОГ.** Вас могуць чакаць перамены, якіх бы вы не хацелі. Аднак самае галоўнае застаецца з вамі. Кажыце каханым, як моцна іх любіце. Часам гэта адзінае, што можа сагрэць сэрца.



**ВАДАЛЕЙ.** Вас будзе ўмацоўваць сувязь з самымі рознымі знаёмымі. Нават проста знаёмыя могуць стаць тымі людзьмі, якія ў патрэбны момант вырашаць самыя пільныя патрэбы. Не губляйцеся, прымайце дапамогу ад усёй душы.



**РЫБЫ.** У вас не будзе шмат падзей, якія патрабуюць удзелу. Будзе падавацца, што жыццё пастаўленае на паўзу. Гэта не так. Хутчэй, гэта перадышка перад вельмі насычаным перыядам. Так што назапашвайце сілы.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | | | | 8 | 4 |
| 3 | | | 1 | | | 6 | | |
| | | 6 | | | | 5 | 2 | 1 |
| | | 7 | | | 8 | | | 6 |
| 5 | | | | | 9 | 2 | | 7 |
| | | 2 | | | 4 | 9 | | |
| | 5 | | | 9 | | | | 3 |
| 2 | | | 4 | 8 | | | 9 | |
| 8 | | | | | 1 | | | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная
газета.
Rh.by



● #РГ25

## Леанід Лысакабылка, суполка ўкраінцаў «Краяны»:
# «Дзякуй, што ўсе 25 год вы з намі»

**28 красавіка «Рэгіянальная газета» адзначае 25-годдзе. Прымаем віншаванні і цёплыя словы ад нашага чытача, намесніка старшыні маладзечанскай суполкі ўкраінцаў «Краяны» Леаніда Лысакабылкі.**

– Маладзечанскае культурна-асветніцкае таварыства ўкраінцаў «Краяны» і я асабіста віншуем калектыў «Рэгіянальнай газеты» з 25-годдзем. Усе гэтыя гады вы заўсёды былі з намі, асвятлялі ў сваёй газеце мерапрыемствы «Краянаў».

Выказваем велізарную падзяку асабіста кіраўніку, **Аляксандру Манцэвічу**, і ўсяму калектыву. Асабліва хачу адзначыць **Аксану Ярашонак**, якая з любоўю асвятляе ўкраінскую тэматыку і жыццё нашай суполкі. Вялікі дзякуй ёй за гэта. Жадаю ўсяму калектыву моцнага здароўя і вялікіх поспехаў у вашай няпростай працы.

***



**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**

## Чытайце праз тыдзень:

- **У час пандэміі валожынскім медыкам дапамагаюць гарачымі абедамі. Паразмаўлялі з людзьмі, якія наладзілі гатаванне і дастаўку ежы ў інфекцыйную бальніцу Валожына.**

## 18 красавіка, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 7-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -6,2°С у 2017 годзе
Максімальная тэмпература +20°С у 2013 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,1 мм у 2005 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпішыце на «РГ» сябе і бацькоў. І будзьце здаровыя!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Ад чаго вам прыйшлося адмовіцца з-за пандэміі?



**Максім Ціханаў, юрыст, Вілейка:**
– Першае і самае галоўнае – перастаў бачыцца з бацькамі. Адмянілі з сябрамі вандроўку ў Грэцыю ў чэрвені, хацелі там два тыдні павандраваць.



**Уладзімір Пятроўскі, дальнабойшчык, Будслаў:**
– Тры тыдні не ездзілі да бацькоў, да ўнукаў у Мінск. Святкавалі Вялікдзень каля тэлевізара. Адмовіўся і ад наведвання стаматолага, хаджу са зламаным зубам.



**Алена Бяганская, спецыяліст па рабоце з кадрамі, Маладзечна:**
– Адмовілася ад Вялікадня ў мамы. Мы на самаізаляцыі больш за тры тыдні з дзецьмі. Працую з дому, гэта вельмі складана. Ад сустрэч з сябрамі і роднымі «ўжывую» адмовілася: больш ніякіх вечарынак, караоке і гульняў па вечарах.



**Алена Дзічэнка, загадчыца клуба, Вілейка:**
– Дакладна не пайду ў спартзалу на фітнес, гарадскую лазню, царкву, на канцэрты. Людзі гэта разумеюць, кіраўнікі аб'ектаў паводзяць сябе разумна, без панікі. Ёсць дзве памылкі: ігнараваць вірус і панікаваць.



**Кацярына Бартош, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Адмовілася ад шпацыраў з дзецьмі. Мы на дадзены момант сядзім дома ўжо трэці тыдзень, толькі па неабходнасці я хаджу па прадукты.



**Ірына Жаркевіч, стыліст для жывёл, Маладзечна:**
– Ад наведванняў грамадскіх месцаў. Візіты да доктара прыйшлося адкласці. Не сустракаюся з сябрамі і блізкімі. Дзіця дома, ніякіх забаў, заняткі ў лагапеда і ў студыі танцаў таксама спынілі.



**Анжэла Працько, настаўніца, Мацькаўцы, Вілейскі раён:**
– Адмовілася ад паездак за мяжу. Раней ездзіла адзін-два разы на квартал.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

А ад чаго з-за пандэміі адмовіліся вы? Дасылайце свае гісторыі на электронную пошту regionnews@rh.by.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№16 (1303) 17.04.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 647. Падпісана ў друк у 9.00 16.04.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.